*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 2 (1517) 13 СТУДЗЕНЯ 2021 г.**

## У Пінску калядавалі, нягледзячы на пандэмію

Нягледзячы на пандэмію, у Пінску не адмовіліся ад традыцыйных калядкаў. Удзельнікі творчых аматарскіх калектываў, падзяліўшыся на групы, вулічнымі спевамі віншавалі жыхароў Пінска з Нараджэннем Хрыстовым. Па словах удзельнікаў, у першую чаргу гэта робіцца для моладзі, каб яны не забываліся на народныя традыцыі:

- Кожны год наша ініцыятыўная група спрабуе развесяліць моладзь, нейк арганізаваць яе. Ёсць яшчэ такія старажылы, яны нам шмат расказвалі пра гэтыя святы, як гэта ўсё адбывалася. Сёння дзеці не вельмі абучаныя. Ходзяць славіць Хрыста і яшчэ спяваюць Каляду. Лічыцца, калі ў доме дзятва праспявае Каляду, то ў гэтым доме на працягу ўсяго года будзе радасць і свята.



Яшчэ напачатку XX стагоддзя Мітрафан Доўнар-Запольскі адзначаў, што калядаванне на Беларусі мае язычаскія карані. Самым галоўным пажаданнем калядоўшчыкаў у старажытнасці было моцнае здароўе і ўраджай хлеба.

*Беларускае Радыё Рацыя.*
*Фота p-v.by.*

## Лідская "Батлейка" - лепшая сярод народных тэатральных калектываў Гарадзеншчыны




Народны лялечны тэатр "Батлейка" аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры дзяржаўнай установы "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" стаў лаўрэатам І ступені абласнога дыстанцыйнага конкурсу народных тэатральных калектываў Гарадзенскай вобласці. Рэжысёр тэатра Ірына Вашкевіч прадставіла на конкурс п’есу "Казіная хатка".

А пад Каляды народны лялечны тэатр "Батлейка" Лідскага аддзела ремёстваў паказаў спектакль "Зімовыя прыгоды Юрася і Ганкі" для наведвальнікаў гіпермаркета "Еўраопт".

*Наш кар.*








## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Вось якая сітуацыя з падпіскай у новым годзе. Падпіска ўпала на 13 асобнікаў. Страцілі па некалькі асобнікаў на вобласць, і што маем - тое маем. Разам з тым газета жывая. Сёння ёсць магчымасць гэтую падпіску падняць. Попыт на газету пачаў павялічвацца, але гэты попыт пакуль у павелічэнне падпіскі не выліўся.

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 17 | 15 |
| Бяроза р.в. | 9 | 8 |
| Белаазёрск р.в. | - | - |
| Бярэсце гор. | 5 | 5 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | 1 |
| Драгічын р.в. | - | - |
| Жабінка р.в. | - | - |
| Іванава р.в | - | - |
| Івацэвічы р. в. | 1 | - |
| Камянец р.в. | 2 | 2 |
| Кобрын гор. | 1 | 1 |
| Лунінец гор. | 1 | 1 |
| Ляхавічы р.в. | - | - |
| Маларыта р.в. | - | - |
| Пінск гор. | 5 | 7 |
| Пружаны р.в. | 4 | 3 |
| Столін р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **46** | **43** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | - | - |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 18 | 16 |
| Верхнедзвінск р.в. | 5 | 5 |
| Глыбокае р.в. | 4 | 4 |
| Гарадок р.в. | - | - |
| Докшыцы р.в. | 3 | 3 |
| Дуброўна р.в. | 1 | 1 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 1 | 1 |
| Навапалацк гор. | 18 | 18 |
| Орша гор. | 2 | 3 |
| Полацк гор. | 3 | 3 |
| Паставы р.в. | 2 | 2 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 1 | 1 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 3 | 3 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 3 |
| Шаркоўшчына р.в. | 5 | 6 |
| Шуміліна р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **72** | **74** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 4 | 4 |
| Барысаў гор. | 2 | 4 |
| Вілейка гор. | 1 | 1 |
| Валожын гор. | 5 | 6 |
| Дзяржынск р.в. | 6 | 5 |
| Клецк р.в. | 1 | - |
| Крупкі р.в. | 2 | 2 |
| Капыль р.в. | 2 | 2 |
| Лагойск | 5 | 5 |
| Любань р.в. | 1 | 1 |
| Менск гор. | 154 | 148 |
| Менск РВПС | 11 | 10 |
| Маладзечна гор. | 9 | 9 |
| Мядзель р.в. | - | 1 |
| Пухавічы РВПС | 2 | 2 |
| Нясвіж р.в. | 9 | 6 |
| Смалявічы р.в. | 4 | 5 |
| Слуцк гор. | 4 | 6 |
| Салігорск гор. | 1 | 1 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | - |
| Стоўбцы р.в. | 3 | 4 |
| Узда р.в. | 1 | 1 |
| Чэрвень р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **227** | **223** |

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 3 | 3 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | - | - |
| Гомель гор. | 16 | 11 |
| Добруш р.в. | 1 | 1 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 12 | 12 |
| Жлобін гор. | - | 2 |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 2 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | - | - |
| Лоеў р.в. | - | - |
| Мазыр гор. | 1 | 1 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 1 |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыца гор. | 2 | 2 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | - | - |
| Хойнікі р.в. | - | - |
| Чачэрск р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **44** | **41** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 2 | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 2 | 2 |
| Воранава р.в. | 2 | 2 |
| Гародня гор. | 25 | 25 |
| Гародня РВПС | 14 | 13 |
| Дзятлава р.в. | 12 | 9 |
| Зэльва р.в. | 1 | 1 |
| Іўе р.в. | 4 | 3 |
| Карэлічы р.в. | 1 | 2 |
| Масты р.в. | 1 | 1 |
| Наваградак гор. | 3 | 3 |
| Астравец р.в. | 2 | 2 |
| Ашмяны р.в. | 3 | 3 |
| Смаргонь гор. | 5 | 6 |
| Слонім гор. | 7 | 8 |
| Свіслач р.в. | 4 | 4 |
| Шчучын р.в. | 1 | 1 |
| Ліда | 10 | 9 |
| **Усяго:** | **99** | **96** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 1 | - |
| Бялынічы р.в. | 1 | - |
| Быхаў р.в. | 1 | - |
| Глуск р.в. | - | 1 |
| Горкі гор. | 1 | 1 |
| Дрыбін р.в. | - | 1 |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | 2 | 3 |
| Клімавічы р.в. | - | - |
| Касцюковічы р.в. | - | - |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Крычаў р.в. | - | - |
| Круглае р.в. | 1 | 1 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 2 |
| Магілёў гор. | 53 | 50 |
| Асіповічы гор. | 6 | 7 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | - |
| Чэрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго** | **71** | **69** |
| **Усяго на краіне:** | **559** | **546** |

# Юбілейныя і памятныя даты 2021 года

### СТУДЗЕНЬ

**1 студзеня** - 160 гадоў з дня нараджэння **Яўхіма Фёдаравіча Карскага** (1861-29.04.1931), заснавальніка беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнографа, фалькларыста.



**2 студзеня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Паўла Савоські**, беларускага пісьменніка.

**2 студзеня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Міхася Зарэмбы** (1941-2002), беларускага празаіка.

**2 студзеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Анатоля Міхайлавіча Лютага**, доктара гістарычных навук, прафесара, загадчыка кафедры гісторыі Беларусі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.

**3 студзеня** - 75 гадоў з дня нараджэння (1946) **Тадэвуша Кандрусевіча**, беларускага рэлігійнага дзеяча, арцыбіскупа, доктара тэалогіі.

**4 студзеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Рамуальда Чыкалава**, кандыдата гістарычных навук, дацэнта.

**4 студзеня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Івана Крамко**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**7 студзеня** - 30 гадоў таму (1991 г.) Пастановай урада БССР 7 студзеня і 25 снежня аб'яўлены нерабочымі днямі для святкавання **Калядаў**.

**9 студзеня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Валянціны Ададуравай**, беларускай паэткі.

**11 студзеня** - 60 гадоў таму (1961 г.) на Салігорскім калійным камбінаце пачата прамысловая здабыча каменнай солі.

**12 студзеня** - 80 гадоў з дня нараджэння Народнага артыста СССР і Беларусі, заснавальніка ансамбля "Песняры" **Уладзіміра Мулявіна**.



**12 студзеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Міхайлавіча Літвіна**, доктара гістарычных навук, прафесара, загадчыка аддзела ваеннай гісторыі і міждзяржаўных адносін Інстытута гісторыі НАН Беларусі.

**12 студзеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Юрыя Зайца**, беларускага гісторыка, археолага, кандыдата гістарычных навук.

**14 студзеня** - 100 гадоў таму (1921 г.) заснавана Беларускае бюро Расійскага тэлеграфнага агенцтва (з 1931 г. - **БелТА**).

**19 студзеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Тацціны Аўтуховіч**, беларускага літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара.

**20 студзеня** - 130 гадоў з дня нараджэння (1891) **Фабіяна Ярэміча**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча.

**21 студзеня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Ганны Радзько**, беларускай спявачкі, заслужанай артысткі Беларусі.

**25 студзеня** - 75 гадоў таму назад у Гародні было створана абласное аддзяленне Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР.

**30 студзеня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Івана Пятровіча Шамякіна** (1921-14.10.2004), народнага пісьменніка Беларусі, празаіка, грамадскага дзеяча.



**30 студзеня** - 60 гадоў з дня нараджэння **Марыі Якалцэвіч**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук, дацэнта.

**Студзень** - 80 гадоў таму (1941 г.) на тэрыторыі Беларусі адкрыты залежы каменнай і калійных солей.

### ЛЮТЫ

**1 лютага** - 610 гадоў таму (1411 г.) у г. Торунь падпісаны **Торуньскі мірны дагавор** паміж Каралеўствам Польскім і ВКЛ, з аднаго боку, і Тэўтонскім ордэнам - з другога. Завяршылася Вялікая вайна (1409 - 1411 гг.).

**4 лютага** - 300 гадоў з дня нараджэння (1721) **Юрыя Радзівіла**, дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

**4 лютага** - 275 гадоў з дня нараджэння **Тадэвуша Касцюшкі.**

**7 лютага** - 475 гадоў з дня нараджэння (1546) **Фёдара Еўлашоўскага**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча, пісьменніка.

**7 лютага** - 130 гадоў з дня нараджэння **Марыі Міцкевіч (Каменскай)**, беларускага педагога, жонкі Якуба Коласа.

**9 лютага** - 70 гадоў з дня нараджэння **Віктара Анатолевіча Фядосіка**, доктара гістарычных навук, прафесара, загадчыка кафедры гісторыі Старажытнага свету і Сярэдніх вякоў БДУ.

**10 лютага** - 275 гадоў з дня нараджэння (1746) **Казіміра Кагнавіцкага**, беларускага гісторыка, педагога, доктара філасофіі.

**14 лютага** - 90 гадоў з дня нараджэння **Івана Булдыка**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук.

**21 лютага -
МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ
РОДНАЙ МОВЫ**

**26 лютага** - 200 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Гінтаўта-Дзевялтоўскага**, удзельніка паўстання 1863-64 гг., каталіцкага мітрапаліта.

### САКАВІК

**1 сакавіка** - 440 гадоў таму (1581 г.) створаны **Галоўны Літоўскі Трыбунал.**

**3 сакавіка** - 160 гадоў таму (1861 г.) надрукаваны Маніфест і Палажэнні аб **адмене прыгоннага права** ў Расійскай імперыі.

**5 сакавіка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Кандрата Крапівы** (Кандрат Кандратавіч Атраховіч, 1896— 07.01. 1991), народнага пісьменніка Беларусі, драматурга.

**8 сакавіка** - 110 гадоў таму (1911 г.) у чатырох краінах Еўропы быў упершыню адсвяткаваны **Міжнародны жаночы дзень.**

**11 сакавіка** - 620 гадоў таму (1401 г.) падпісана **Віленска-Радамская унія** — дзяржаўны і палітычны саюз ВКЛ і Каралеўства Польскага, накіраваны на барацьбу з нямецкай агрэсіяй.

**11 сакавіка** - 110 гадоў з дня нараджэння **Льва Гарошкі** (1911-08.08.1977), рэлігійнага дзеяча.

**12 сакавіка** - 35 гадоў з дня адкрыцця ў Гародні гістарычна-культурнага клуба **"Паходня"**.

**14 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Паўла Місько**, беларускага пісьменніка.

**14 сакавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Аляксандра Аляксандравіча Кавалені**, акадэміка-сакратара НАН Беларусі, доктара гістарычных навук.

**15 сакавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Васіля Мялешкі**, беларускага гісторыка, доктара гістарычных навук, прафесара.

**17 сакавіка** - 275 гадоў з дня нараджэння **Яна Давіда Голанда** (1746-1827), кампазітара, прыдворнага капельмайстра ў Радзівілаўскім тэатры ў Нясвіжы, аўтара беларускай аперэты "Агатка".

**17 сакавіка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Ізі Харыка** (1896-1937), яўрэйска-беларускага паэта.

**18 сакавіка** - 100 гадоў таму (1921 г.) быў падпісаны **Рыжскі мірны дагавор** паміж РСФСР і УССР з аднаго боку і Польшчай з другога (без удзелу Беларусі), у адпаведнасці з якім Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна адышлі да Польшчы.

**18 сакавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння (1921) **Аляксандра Палубінскага**, беларускага педагога, краязнаўца, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**20 сакавіка** - 125 гадоў з дня нараджэння (1896) **Майсея Кульбака**, яўрэйскага пісьменніка, культурнага дзеяча Беларусі.

**27 сакавіка** -170 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Парфёнавіча Сапунова**, беларускага археографа і краязнаўцы.

**30 сакавіка** - 90 гадоў з дня нараджэння **Аляксея Пяткевіча**, беларускага літаратуразнаўца, культуролага, кандыдата філалагічных навук.



### КРАСАВІК

**2 красавіка** - 70 гадоў таму назад заснавана вучэбна-педагагічнае выдавецтва **"Народная асвета".**

**2 красавіка** - 50 гадоў з дня нараджэння (1971) **Іны Соркінай**, беларускага гісторыка, кандыдата гістарычных навук, дацэнта.

**2 красавіка** - 30 гадоў з дня адкрыцця (1991) у **Гардзенскім** універсітэце імя Я. Купалы факультэта беларускай філалогіі і культуры.

**3 красавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння **Рычарда Смольскага**, беларускага тэатразнаўца, доктара мастацтвазнаўства, прафесара.

**6 красавіка** - 70 гадоў з дня нараджэння **Алега Антонавіча Яноўскага**, кандыдата гістарычных навук, прафесара, загадчыка кафедры БДУ.

**6 красавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння (1946) **Валянціны Коўтун**, беларускай пісьменніцы.

**7 красавіка** - 85 гадоў таму назад у БССР уведзена **ўсеагульнае пачатковае навучанне** для дзяцей ва ўзросце з 8 да 11 гадоў.

**12 красавіка** - 60 гадоў таму назад першы ў свеце арбітальны касмічны палёт вакол Зямлі здзейсніў лётчык-касманаўт **Юрый Аляксеевіч Гагарын** з беларускай Смаленшчыны.

**14 красавіка** - 80 гадоў з дня нараджэння **Полі Раксы**, польскай артысткі тэатра і кіно.

**17 красавіка** - 130 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Якаўлевіча Варонкі**, беларускага грамадскага і палітычнага дзеяча.

**19 красавіка** - 140 гадоў з дня нараджэння **Усевалада Макаравіча Ігнатоўскага**, гісторыка і грамадскага дзеяча.

**23 красавіка** - 190 гадоў з дня нараджэння (1831) **Уладзіслава Борзабагатага**, дзеяча нацыянальна-вызвольнага руху Беларусі, удзельніка паўстання супраць Расі ў 1863-1864 гг.

**29 красавіка** - 100 гадоў з дня нараджэння **Міколы Ермаловіча**, беларускага гісторыка.



**30 красавіка** - 140 гадоў з дня нараджэння **Янкі Журбы**, беларускага паэта.

**30 красавіка** - 75 гадоў з дня нараджэння (1946) **Вольгі Ляшчынскай**, беларускага мовазнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара.

### ТРАВЕНЬ

**1 траўня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Алега Лойкі**, беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара, члена-карэспандэнта НАН Беларусі.

**5 траўня** - 175 гадоў з дня нараджэння (1846) **Генрыка Сянкевіча**, польскага пісьменніка.

**6 траўня** - 260 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Юндзіла**, беларускага батаніка, доктара філасофіі.

**16 траўня** - 35 гадоў з дня адкрыцця ў Гародні **музея Максіма Багдановіча.**

**17 траўня - 340 гадоў** з дня нараджэння (1681) **Яна Радзівіла**, дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

**20 траўня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Петрыкевіча**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук, дацэнта.

**21 траўня** - 150 гадоў таму назад (1871) **у Гародні пачалася эпідэмія халеры.**

**24 траўня** - 175 гадоў з дня нараджэння (1846) **Антона Будзіловіча.** рускага філолага-славіста, доктара славянскай філалогіі, гісторыка, члена-карэспандэнта Расійскай акадэміі навук.

**28 траўня** - 140 гадоў з дня нараджэння **Івана Іванавіча Луцкевіча**, беларускага археолага, музеязнаўцы і грамадскага дзеяча.

**29 траўня** - 75 гадоў таму назад у Менску пачалося будаўніцтва **трактарга завода**.

### ЧЭРВЕНЬ

**1 чэрвеня** - 110 гадоў з дня нараджэння (1911) **Якуба Міско**, беларускага журналіста, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**1 чэрвеня** - 75 гадоў з дня нараджэння пісьменніка **Генрыха Далідовіча** (1946 г.).

**6 чэрвеня** - 180 гадоў з дня нараджэння (1806 - 18.5. 1910 ) **Элізы Ажэшкі.**

**7 чэрвеня** - 60 гадоў **Вінцуку Вячорку**, грамадска-палітычнаму дзеячу, беларускаму мовазнаўцу.

**11 чэрвеня** - 70 гадоў з дня нараджэння (1951) **Сяргея Бугасава**, беларускага музычнага педагога, кампазітара.

**21 чэрвеня** - 280 гадоў з дня нараджэння **Жана Жалібера**, вучонага прыродазнаўца, кіраўніка Гарадзенскай медыцынскай акадэміі.

**22 чэрвеня** - 100 гадоў таму (1921 г.) пачала выдавацца газета **"Во славу Родины"**.

**22 чэрвеня** - 80 гадоў таму (1941 г.) пачалася **Вялікая Айчынная вайна.**

### ЛІПЕНЬ

**7 ліпеня** - 225 гадоў з дня нараджэння **Яна Чачота**, беларускага паэта, фалькларыста.

**9 ліпеня** - 75 гадоў з дня нараджэння (1946) **Уладзіміра Някляева**, беларускага паэта, грамадска-палітычнага дзеяча

**10 ліпеня** - 240 гадоў з дня нараджэння **Антона Марціноўскага** (1781-03.01.1855), выдаўца, публіцыста.

**10 ліпеня** - 150 гадоў з дня нараджэння **Паўла Пятровіча Дземідовіча** (1871 - 7.03.1931), этнографа, фалькларыста і педагога.

**11 ліпеня** - 110 гадоў з дня нараджэння (1911) **Анатоля Астрэйкі**, беларускага паэта.

**12 ліпеня** - 80 гадоў з дня нараджэння **Алега Георгіевіча Слукі**, доктара гістарычных навук, прафесара Інстытута журналістыкі БДУ.

**15 ліпеня** - 145 гадоў з дня нараджэння **Алаізы Пашкевіч (Цёткі)**, беларускай пісьменніцы, грамадскай і культурнай дзячкі.

**15 ліпеня** - 120 гадоў з дня нараджэння (1901) св. **Серафіма Жыровіцкага** (Рамана Шахмуця), беларускага праваслаўнага духоўніка, архімандрыта.

**24 ліпеня** - 260 гадоў з дня нараджэння **Якуба Ясінскага**, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1794 года.

**24 ліпеня** - 125 гадоў з дня нараджэння (1896) **Аляксандра Орсы**, беларускага педагога, доктара прыродазнаўства.

**27 ліпеня -
ДЗЕНЬ ПРЫНЯЦЦЯ ДЭКЛАРАЦЫІ АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ СУВЕРЭНІТЭЦЕ БЕЛАРУСІ**

**Ліпень** - 90 гадоў таму (1931 г.) заснаваны **Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі** (цяпер БДЭУ) і **Беларускі вышэйшы педагагічны інстытут** (цяпер БДПУ імя Максіма Танка).






# Юбілейныя і памятныя даты 2021 года

**ЖНІВЕНЬ**

**1 жніўня** - 100 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Урбановіча**, беларускага педагога, краязнаўца.

**5 жніўня** - 660 гадоў з дня нараджэння вялікага князя літоўскага **Аляксандра** (1461- 19.08. 1506).

**5 жніўня** - 515 гадоў таму (1506 г.) адбылася **Клецкая бітва**, у якой войскі ВКЛ перамаглі крымскіх татараў.

**5 жніўня** - 135 гадоў з дня нараджэння ў м. Дакудава Лідскага павету **Браніслава Яманта**, мастака, прафесара Віленскага ўніверсітэта імя Сэфана Баторыя, дэкана мастацкага факультэта і прафесар Таруньскага ўніверсітэта.

**14 жніўня** - 115 гадоў з дня нараджэння **Сяргея Новіка-Пеюна**.

**15 жніўня** - 190 гадоў з дня нараджэння **Вінцэся Каратынскага**, беларускага паэта, журналіста, краязнаўца.



**18 жніўня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Макара Краўцова**, беларускага пісьменніка, грамадска-палітычнага дзеяча. Загінуў у 1939 г.

**22 жніўня** - 160 гадоў з дня нараджэння **Ігната Цярэнцьевіча Буйніцкага** (1861—22.09.1917), тэатральнага дзеяча, акцёра, рэжысёра.

**22 жніўня** - 130 гадоў таму (1891 г.) у Віцебску заснавана аб'яднанне сясцёр міласэрнасці **Таварыства Чырвонага Крыжа** - адно з першых у Беларусі.

**23 жніўня** - 225 гадоў з дня нараджэння **Францішка Міцкевіча**, удзельніка паўстання супраць Расіі ў 1830-31 гг.

**25 жніўня** - 30 гадоў таму (1991 г.) Вярхоўны Савет Беларускай ССР надаў статус **Канстытуцыйнага закона** Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб суверэнітэце Беларускай ССР. Беларусь стала незалежнай дзяржавай.

**28 жніўня** - 85 гадоў з дня нараджэння паэта **Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна**.

**ВЕРАСЕНЬ**

**3 верасня** - 290 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Богуш-Сестранцэвіча**, беларускага грамадскага і рэлігійна-асветнага дзеяча, каталіцкага мітрапаліта.

**5 верасня** - 120 гадоў з дня нараджэння пісьменніка **Віталя Вольскага**.

**6 верасня** - 75 гадоў з дня нараджэння **Вячаслава Дзмітрыевіча Селяменева**, кандыдата гістарычных навук, дырэктара Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.

**11 верасня** - 180 гадоў з дня нараджэння (1841) **Гіяцынта Альхімовіча**, беларускага і французскага мастака.

**16 верасня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Пятра Фёдаравіча Лысенкі**, доктара гістарычных навук, прафесара, галоўнага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі НАН Беларусі.

**19 верасня** - 30 гадоў таму (1991 г.) Вярхоўны Савет БССР зацвердзіў назву нашай дзяржавы "Рэспубліка Беларусь" і прыняў новыя Дзяржаўныя сімвалы: герб "Пагоня" і бела-чырвона-белы сцяг (прымяняліся да 15 траўня 1995 г.).

**22 верасня** - 70 гадоў **Уладзіміру Коласу**, беларускаму кінарэжысёру, заснавальніку і дырэктару Беларускага гуманітарнага ліцэя.

**24 верасня** - 380 гадоў з дня нараджэння **Станіслава Незабітоўскага**, беларускага грамадскага і культурнага дзеяча.

**26 верасня - ЕЎРАПЕЙСКІ ДЗЕНЬ МОЎ**

**29 верасня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Аркадзя Смоліча**, беларуска дзяржаўна-палітычнага дзеяча, вучонага ў галіне эканомікі, геаграфіі Беларусі, прафесара. Загінуў у 1938 годзе.

**30 верасня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Ніла Сымонавіча Гілевіча**, Народнага паэта Беларусі.



**КАСТРЫЧНІК**

**7 кастрычніка** - 110 гадоў з дня нараджэння **Валянціна Рамановіча**, беларускага мастака.

**7 кастрычніка** - 70 гадоў з дня нараджэння **Вячаслава Вітальевіча Шведа**, доктара гістарычных навук, прафесара Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.

**9 кастрычніка** - 425 гадоў таму (1596 г.) заключана **Берасцейская царкоўная унія**.

**10 кастрычніка** - 100 гадоў з дня нараджэння (1921) **Міхаіла Гарабца**, беларускага музычнага педагога, кампазітара.

**10 кастрычніка** - 90 гадоў з дня нараджэння (1931) **Уладзіміра Нядзелькі**, беларускага гісорыка, кандыдата гістарычных навук, дацэнта.

**13 кастрычніка** - 125 гадоў з дня нараджэння **Мікалая Шчакаціхіна** (1896-1940), беларускага мастацтвазнаўца, гісторыка, тэарэтыка мастацтва, педагога.

**15 кастрычніка** - 60 гадоў з часу адкрыцця (1961 г.) у **Крычаве** раённага краязнаўчага музея.

**22 кастрычніка** - 520 гадоў таму (1501 г.) вялікі князь літоўскі Аляксандр выдаў **Мельніцкі прывілей**, які пашырыў паўнамоцтвы шляхты ў палітычным жыцці ВКЛ.

**26 кастрычніка** - 150 гадоў з дня нараджэння (1871) **Іосіфа Дамашэўскага**, яўрэйскага пісьменніка.

**27 кастрычніка** - 60 гадоў з дня нараджэння (1961) **Станіслава Янушкевіча**, беларускага мовазнаўца, кандыдата філалагічных навук, дацэнта Гарадзенскага ўніверсітэта імя Я. Купалы.

**27 кастрычніка** - 50 гадоў з дня нараджэння (1971) **Іны Швед**, беларускай фалькларысткі, доктара філалагічных навук, прафесара.

**30 кастрычніка** - 100 гадоў таму (1921 г.) у Менску адкрыты **Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт**.

**30 кастрычніка** - 85 гадоў з дня нараджэння (1936) **Генадзя Цыхуна**, беларускага мовазнаўца-славіста, доктара філалагічных навук.



**ЛІСТАПАД**

**6 лістапада** - 130 гадоў з дня нараджэння **Іосіфа Воўк-Левановіча** (1891-1943), беларускага мовазнаўца.

**7 лістапада** - 125 гадоў з дня нараджэння **Міхася Чарота** (1896-1937), беларускага паэта, драматурга, празаіка, грамадскага дзеяча.

**8 лістапада** - 65 гадоў таму (1956 г.) адкрыты **Музей абароны Брэсцкай крэпасці**.

**10 лістапада** - 100 гадоў з дня нараджэння **Віктара Уладзіміравіча Роўды** (1921 - 18.11.2007), харавога дырыжора, народнага артыста СССР.

**11 лістапада** - 200 гадоў з дня нараджэння **Фёдара Дастаеўскага** (1821-09.02. 1881), рускага пісьменніка, бацькі якога маюць беларускае паходжанне.

**11 лістапада** - 70 гадоў з дня нараджэння (1951) **Алеся Судара**, беларускага мастака.

**13 лістапада - ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ**

**18 лістапада** - 90 гадоў з дня нараджэння паэта **Анатоля Вярцінскага**.



**20 лістапада** - 120 гадоў з дня нараджэння пісьменніка **Міхася Зарэцкага** (Міхаіл Яўхімавіч Касянкоў, 1901-29.10.1937).

**23 лістапада** - 115 гадоў таму (1906 г.) выйшаў першы нумар штотыднёвай газеты **"Наша Ніва"** (выдавалася да 20 жніўня 1915 г.).

**25 лістапада** - 110 гадоў з дня нараджэння **Яўгена Мікалаевіча Ціхановіча** (1911 - 05.07.2005), мастака.

**25 лістапада** - 75 гадоў з дня нараджэння **Аляксандры Станкевіч**, беларускага мовазнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара.

**26 лістапада** - 130 гадоў з дня нараджэння **Янкі Станкевіча**, беларускага культурнага дзеяча, мовазнаўца, доктара славянскага мовазнаўства.

**27 лістапада** - 100 гадоў з дня нараджэння (1921) **Уладзіміра Тарасевіча**, беларускага грамадска-рэлігійнага дзеяча на эміграцыі, доктара тэалогіі.

**28 лістапада** - 150 гадоў таму (1871 г.) уведзена ў эксплуатацыю **чыгуначная магістраль** Смаленск - Менск - Бярэсце.

**28 лістапада** - 25 гадоў таму (1996 г.) утвораны **Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь**: Палата прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі.

**29 лістапада** - 30 гадоў таму назад у Гародні створаны беларускі хор "Бацькаўшчына" (кіраўнік В.В. Кунцэвіч).

**СНЕЖАНЬ**

**3 снежня** - 100 гадоў таму (1921 г.) у Менску створана Беларуская рэспубліканская кантора Дзяржбанка РСФСР (з 1991 г. **Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь**).

**4 снежня** - 430 гадоў з дня нараджэння (1591) **Жыгімонта Радзівіла**, дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

**7 снежня** - 100 гадоў таму (1921 г.) у Заходняй Беларусі заснавана **Таварыства беларускай школы** (ТБШ), якое дзейнічала да 1937 г.

**8 снежня** - 30 гадоў таму (1991 г.) кіраўнікі Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Беларусь і Украіны дэнансавалі Саюзны дагавор 1922 г. і падпісалі **Пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў**.

**9 снежня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Максіма Адамавіча Багдановіча** (1891-25.05.1917), паэта.



**9 снежня** - 45 гадоў таму (1976 г.) Савет Міністраў БССР прыняў пастанову аб стварэнні **Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту**.

**15 снежня** - 100 гадоў з дня нараджэння (1921) **Сцяпана Александровіча**, беларускага пісьменніка, літаратуразнаўца, доктара філалагічных навук, прафесара.



**16 снежня** - 70 гадоў таму заснаваны **Беларускі інстытут навукі і мастацтва** ў Нью-Ёрку (ЗША).

**21 снежня** - 225 гадоў з дня нараджэння **Тамаша Зана** (1796-1855), беларускага паэта-рамантыка.

**24 снежня** - 130 гадоў з дня нараджэння (1891) **Адама Станкевіча**, беларускага грамадска-палітычнага і рэлігійна-культурнага дзеяча, каталіцкага духоўніка.

**24 снежня** - 125 гадоў з дня нараджэння (1896) **Уладзіслава Ярэмы**, стваральніка першага лялечнага тэатра ў Гародні (1940).

**29 снежня** - 140 гадоў з дня нараджэння (1881) **Іосіфа Яшунскага**, яўрэйскага пісьменніка. Загінуў у 1943 г.

**25 снежня** - 130 гадоў з дня нараджэння **Уладзіслава Луцэвіч** (1891-1960), жонкі Янкі Купалы.

**25 снежня** - 125 гадоў з дня нараджэння (1896) **Юліі Бібілы**, беларускай культурнай дзяячкі, бібліёграфа.

**30 снежня** - 110 гадоў з дня нараджэння (1911) **Лідзіі Ялоўчык**, беларускай пісьменніцы, педагога.

**30 снежня** - 70 гадоў з дня нараджэння **Уладзіміра Аркадзевіча Сосны**, кандыдата гістарычных навук, дацэнта.

**31 снежня** - 90 гадоў з дня нараджэння **Пятра Іосіфавіча Зялінскага**, доктара гістарычных навук, прафесара БДУ.

**У 2021 ГОДЗЕ:**

**1110 гадоў** таму (911 г.) радзімічы, крывічы і дулебы прынялі ўдзел у другім паходзе кіеўскага князя Алега на Царград (Візантыю).

**1030 гадоў** таму (991 г.) у Полацку пачала стварацца першая хрысціянская епархія.

**1020 гадоў** таму (1001 г.) у г. Друцк пабудаваны адзін з першых хрысціянскіх сабораў.

**1000 гадоў** з часу бітвы палачан з дружынай Яраслава Мудрага на р. Судома ў час паходу Брачыслава Ізяславіча на Ноўгарад (1021 г.).

**860 гадоў** таму (1161 г.) полацкі майстар Лазар Богша зрабіў крыж па замове Ефрасінні Полацкай.

**860 гадоў** таму (1161 г.) у Полацку дойлідам Іаанам пабудаваны Спаса-Ефрасінеўскі сабор па замове Ефрасінні Полацкай. Будаўніцтва вялося 9 гадоў.

**850 гадоў** таму назад па загаду друцкага князя Рагвалода Барысавіча (у хрышчэнні Васіль) створаны манументальны помнік эпіграфікі - **Рагвалодаў камень**.

**775 гадоў** таму (1246 г.) князь ВКЛ Міндоўг прыняў праваслаўную веру.

**630 гадоў** з часу надання г. Гародні права на самакіраванне па Магдэбургскаму праву.

**575 гадоў** з часу стварэння Беларуска-літоўскага летапіса (1446 г.).

**510 гадоў** таму (1511 г.) Наваградак атрымаў права на самакіраванне па Магдэбургскаму праву.

**490 гадоў** таму Слонім атрымаў права на самакіраванне па Магдэбургскаму праву (1531 г.)

**480 гадоў** таму быў створаны паляўнічы запаведнік у Белавежскай пушчы (1541 г.).

**425 гадоў** таму ў Вільні выдадзены "Азбука" і "Граматика словенска..." Лаўрэнція Зізанія (1596 г.).

**230 гадоў** з дня нараджэння **Казіміра Гаўрылавіча Чарноўскага** (1791, маёнтак Карытніца Ігуменскага р-на Менскага ваяв., цяпер Бялыніцкі р-н - 08.11.1847), аднаго з вынаходнікаў падводнага карабля (1825 -1827 гг.), рэвалюцыянера.

**185 гадоў** з часу выдання царскага ўказа пра ўвядзенне ва ўсіх навучальных установах Беларусі выкладання прадметаў на рускай мове (1836 г.).

**175 гадоў** з пачатку выдання Актаў Заходняй Расіі - 5-томнага зборніка дакументаў па гісторыі Беларусі, Украіны і Літвы за XIV - XVII стст. (1846 г). Складальнікам і рэдактарам першых чатырох тамоў быў наш зямляк Іван Іванавіч Грыгаровіч (1790 або 1792, Прапойск, цяпер г. Слаўгарад Магілёўскай вобл. - 1862).

**140 гадоў** (1881 г.) ад моманту закладкі Імператарскай лясной аховай парка Гарні пад Лідай.

**90 гадоў** з часу адкрыцця ў Менску Беларускага тэатра юнага гледача (1931 г).

*Паводле Сымона Барыса і Аляксея Пяткевіча.*

*Да 160-годдзя акадэміка Яўхіма Карскага*

***Алесь Крой,***
*старшыня Гарадзенскай гарадской рады ТБМ і сябар БГТ*

# Галоўны помнік яго жыцця - вялікая шматтомная праца "Беларусы"...

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

**3. Айчым Фёдар Мікалаевіч Навіцкі.** Бацька акадэміка пакуль невядомы. Усынавіў і выхоўваў Яўхіма Фёдар Навіцкі. Аляксандр Карскі, праўнук Яўхіма Карскага піша, што шлюб Фёдара Мікалаевіча Навіцкага і маці Магдалены Ануфрыеўны Карскай адбыўся праз паўтара года пасля нараджэння хлопчыка Яўхіма. Каб Яўхім быў родным сынам, то для духоўнага саслоўя доўгае чаканне з прызнаннем бацькоўства было б беспрэцэдэнтным скандалам. Наўрад ці сельскі дзячок атрымаў бы добрыя рэкамендацыі, а пазней і выдатную атэстацыю. Верагодна малады чалавек узяў жонку з дзіцём і гэтым самым пакрыў яе грэх, даў магчымасць Яўхіму атрымаць законны статус. Пры гэтым, зразумела, узнікла неабходнасць назаўсёды пакінуць вёску Лаша. Яўхім Карскі з павагай ставіўся да свайго айчыма Фёдара Навіцкага і ў розных анкетах і заявах указваў, што ён яго бацька.

Фёдар Мікалаевіч Навіцкі, народжаны 31 сакавіка 1841 года, з габрэяў, у габрэйстве звалі Абрам, ахрышчаны ў 7 гадоў у Гарадзенскім Сафійскім саборы 31 сакавіка 1848 года, Фёдар знаходзіўся пры Гарадзенскім Барыса-Глебскім кляштары на выхаванні да 1857 года. Меў добрыя паводзіны і старанная навучанне. Спачатку быў прыпісаны разам са сваім бацькам Мікалаем Навіцкім да Гарадзенскай мяшчанскай супольнасці, пасля прашэння прыняты ў духоўнае званне. Свой зямны шлях скончыў Фёдар Навіцкі ў в. Будча былога Слуцкага павета, сёння Ганцавіцкі раён Берасцейшчыны. Пахаваны каля царквы, дзе было яго апошняе месца службы.

**4. Змена прозвішча на *Карскі*.** У час вучобы ў Менскай духоўнай вучэльні Яўхім Карскі насіў прозвішча айчыма *Навіцкі*, пад гэтым прозвішчам і скончыў вучэльню…

…У Нежынскі інстытут (Украіна) Яўхім паступіў пад прозвішчам *Навіцкі*, а пасля залічэння ў інстытут піша новае прашэнне і дакументальна пацвярджае па метрычным пасведчанні і прапісцы да прызыўнога ўчастка прозвішча *Карскі* і што нарадзіўся да шлюбу. Прыкладаў ён і шлюбнае пасведчанне маці і айчыма Фёдара Навіцкага. Яўхім Навіцкі распачаў з верасня 1881года жыццё студэнта першага курса пад новым прозвішчам *Яўхіма Карскага*, на 21 годзе жыцця і больш не мяняў.

Бацька Фёдара Навіцкага Мікалай Навіцкі быў з габрэяў Сакольскага павета Гарадзенскай губерні горада Новы Двор (меў статус горада з 16 стагоддзя), пасля II Сусветнай вайны знаходзіцца ў Польшчы, за некалькі кіламетраў ад беларускай мяжы па дарозе № 670 у бок 4 гарадзенскага фарта і Гародні. Новы Двор геаграфічна знаходзіцца значна бліжэй да Гародні, чым да Саколкі. У 1897 годзе ў Новым Двары пражывала амаль 58% беларусаў, каля 38% габрэяў, 2,4% рускіх і амаль 2% палякаў.



***Фота4. Яўхім у маладосці. З архіва музея Я. Карскага***

Навіцкія (да Гародні мелі відаць іншыя імя і прозвішча, сына звалі Абрамам), і іх продкі, верагодна, хадзілі ў сінагогу. Па звестках журналісткі Уршулі Шубзды і Новадворскага гісторыка да Другой сусветнай вайны сінагога ў Новым Двары стаяла адразу за барам "Гранічанка" (сёння "New York", жоўны каптурык), пры галоўным рынку, які сёння з'яўляецца паркам. Магчыма, пошукі гісторыкаў з Новага Двара падкажуць больш пра родных ахрышчаных у Гародні габрэяў з Новага Двара - Міколы Навіцкага і Фёдара Навіцкага.



***Фота 5. Новы Двор (Польшча). За будынкам з жоўтым каптурыкам да II Святовай вайны была сінагога***

**5. Накіраванне ў Лашу і шлюб з Магдаленаю Карскай.** У Лашу Фёдар Навіцкі быў накіраваны 14 сакавіка 1857 года штатным дзякам, пасля экзамена ў Літоўскай Духоўнай Кансісторыі прыняты ў духоўнае званне, тады яму яшчэ не было 16 гадоў. 9 траўня 1862 года звольнены з духоўнага звання і 18 чэрвеня быў выдадзены пад № 3.410 дзевяцімесяцовы Білет для абрання роду дзейнасці. Гэта было звязана з будучым шлюбам.

1 ліпеня 1862 года Фёдар Навіцкі ажаніўся з дачкою дзячка Лашанскай царквы Ануфрыя Вікенцьевіча Карскага - Магдаленаю. Згодна з новымі даследаваннямі, маладыя былі прыкладна аднаго ўзросту - па 21 году. Тайну шлюбу здзейсніў святар Лашанскай царквы Рыгор Парчэўскі з дзячком Ануфрыем Карскім (дзядзькам нявесты -*А.К.*) і іншымі… Метрычны запіс, як піша Аляксандр Карскі, ёсць у кнізе Лашанскай царквы пад № 27, аб чым сведчыў 29 лістапада 1862 года Рыгор Парчэўскі, які верагодна раней хрысціў маленькага Яўхіма Карскага.

**6. У Лашы маладая сям'я Карскіх-Навіцкіх пасля шлюбу не затрымалася**. Па звестках Апанаса Цыхуна маладыя пераехалі з Лашы ў сяло Ятра ў 1868 годзе. Даследаванні гісторыка Андрэя Блінца даюць больш дакладныя дадзеныя. З Лашы маладыя Фёдар і Магдалена пасля шлюбу, па прашэнні, спачатку пераехалі ў Бытчу Барысаўскага павета ў 1862 годзе і знаходзіліся там да 1866 года. Пасля, па прашэнні, пераехалі ў Ятру пад Наваградак. Яўхім атрымаў пачатковую адукацыю ў народнай вучэльні. Потым была Менская духоўная семінарыя. А ў 1881-1885 гг. Яўхім скончыў Нежынскі (Чарнігаўшчына) гістарычна-філалагічны інстытут.

У 1879 годзе сям'я пераехала на 11 гадоў у Бярозавец Наваградскага павета. Адтуль у 1890 г. Фёдар Навіцкі быў пераведзены ў Гародзенскую (сёння Гарадная) царкву Пінскага павета, а ў 1893 г. сям'я пераехала ў м. Волму Менскага павета, дзе прайшлі апошнія гады жыцця Магдалены Ануфрыеўны. Пасля смерці жонкі Фёдар Навіцкі папрасіў царкоўнае начальства перавесці яго псаломшчыкам у Дунайчыцкую царкву Слуцкага павета з 1902 г., бо недалёка, у Блячыне, служыў яго сын Іван Фёдаравіч Навіцкі. У лістападзе 1904 г. Фёдар Мікалаевіч Навіцкі прыняў святарскі сан і быў накіраваны ў Дольскую царкву Пінскага павета. На працягу жыцця Фёдар Навіцкі сумяшчаў царкоўную службу з настаўніцкай працай: вучыў дзяцей у царкоўнапрыходскіх школах і народных вучылішчах, ён любіў царкоўныя спевы і выкладаў спевы дзецям. У 1907 г. Фёдар Мікалаевіч быў пераведзены за штат па прычыне кепскага здароўя, дзе знаходзіўся больш двух гадоў. Падчас свайго знаходжання за штатам айцец Фёдар быў узнагароджаны скуф'ёю і камілаўкаю. А 1 сакавіка 1910 г. быў прызначаны святаром Праабражэнскай царквы сяла Будча. Фёдар Навіцкі сумленна выконваў свой абавязак усюды, куды яго закідваў лёс. Памёр Фёдар Навіцкі 21 студзеня 1918 г., на 16 гадоў перажыўшы жонку, пахаваны на могілках Будчанскай Праабражэнскай царквы. Яго пахаванне - адзіная магіла святара, якая захавалася каля царквы, ён памёр ва ўласным прыходзе. Гісторык Андрэй Блінец мяркуе, што пахаваннем і ўстаноўкай помніка займаўся сын Іван - настаяцель Блячынскага прыхода. Яўхім Карскі мог наведаць бацькаву магілу летам 1920 г., у час польскай акупацыі, калі прыехаў у Блячын да брата. Да брата ён прыязджаў не менш за 5 разоў.

*(Працяг у наст. нумары.)*



***Фота 3. Аляксандр Карскі на месцы пахавання Фёдара Навіцкага. Фота з газеты "Вечерний Брест"***



***Фота 6. Лаша. Каля царквы месца пахавання(усыпальніца) Рыгора Парчэўскага , які здзейсніў тайну шлюба Фёдара Навіцкага і Магдалены Карскай. Фота В. Карнелюка***





# Ветэран і паэт пакінуў свой запавет у вершах




Назаўжды ў сэрцах сяброў ТБМ застанецца мужны і верны сябар арганізацыі, адданы сын Беларусі, які з пашанай ставіўся да роднай мовы і лічыў яе адным са сваіх галоўных скарбаў і які да апошніх часоў дзяліўся з паплечнікамі і аднадумцамі сваімі здабыткамі як духоўнымі, так і матэрыяльнымі.

4 студзеня з прычыны каронавіруса пайшоў з жыцця ветэран Другой сусветнай вайны, геолаг, паэт і пісьменнік, адзін з найстарэйшых сяброў БНФ і ТБМ, Фелікс Уладзіміравіч Шкірманкоў.

Фелікс Шкірманкоў нарадзіўся 27 траўня 1926 года ў былым Прапойску, сённяшнім Слаўгарадзе. Ён быў удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, сябрам Партыі БНФ, сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў і Таварыства беларускай мовы. У 2005 годзе Фелікс Уладзіміравіч быў найстарэйшым дэлегатам Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі.

Пятнаццацігадовым падлеткам Фелікс Шкірманкоў стаў у шэрагі абаронцаў Айчыны, прайшоў праз 2 гады партызанскай барацьбы, меў тры раненні, пасля заканчэння Маскоўскай ваенна-інжынернай вучэльні атрымаў пасаду камандзіра сапёрнага звяза, апошнія дні вайны сустрэў у Мараўскай Астраве…

Пасля вайны доўгі час ён працаваў геолагам на Далёкім Усходзе. Яго вяртанне на Беларусь супала з бурлівымі падзеямі распаду СССР. Землякі абралі Фелікса Шкірманкова старшынём Слаўгарадскага гарадскога савета народных дэпутатаў. У гэтыя часы ён з асаблівай увагай звярнуўся да вывучэння гісторыі роднага края.

Фелікс Шкірманкоў многія гады плённа працаваў на літаратурнай ніве, сябраваў і ліставаўся з Нілам Гілевічам і іншымі творцамі. Ён выдаў некалькі дзясяткаў кніг рознага літаратурнага жанру. Сярод яго твораў засталіся ўспаміны, замалёўкі, абразкі, "ваенныя" і "геалагічныя" апавяданні, кнігі вершаў па-беларуску.

Ф. Шкірманкоў, выступаючы на святах у родным горадзе як старэйшы ўдзельнік вайны, заўсёды прамаўляў па-беларуску і засяроджваў увагу моладзі на неабходнасці вывучэння і шанавання роднай мовы.

І кожны месяц на працягу многіх гадоў - ахвяраванні на ТБМ.

Больш пяцідзесяці гадоў пражыў Фелікс Уладзіміравіч у шлюбе з каханай жонкай Верай Васільеўнай. Яе памяці ён прысвяціў асобную кнігу. Гэта быў чалавек вялікай і шчырай душы, які пранёс каханне праз усё жыццё і захоўваў у сваім сэрцы пасля сыходу роднай палавінкі. У Фелікса Уладзіміравіча засталося двое дзяцей і чацвёра ўнукаў, праўнукі.

Вясной гэтага года ветэран і паэт падзяліўся з сябрамі сваёй апошняй кнігай "Бегущая из памяти строка", прысвечанай Вялікай Перамозе. У кнізе ёсць вельмі эмацыйныя творы, напоўненыя свежымі пачуццямі і пераасэнсаваннем перажытага. Паэт свята ўшаноўваў памяць тых, хто перамог фашызм, імкнуўся зберагчы памяць пра франтавікоў-пабрацімаў. Ні дня ён не мог пражыць без новага радка.

У менскай сядзібе ТБМ і ў асабістых бібліятэках яго сяброў і паплечнікаў на добры ўспамін застануцца яго кнігі вершаў і прозы: "Дарогай памяці", "Смотрю, слушаю, размышляю", "Тропой мамонтов", "Папараць-кветка", "Ты осталась со мной", " На финишной прямой", "Дажынкі" і іншыя.

6 студзеня ў Слаўгарадзе на мясцовыя могілкі на вечны спачын памерлага разам з роднымі праводзіў праваслаўны святар.

Нізкі паклон і вечная памяць сапраўднаму герою Беларусі, вернаму сыну роднай зямлі!

***Эла Дзвінская,***
*фота аўтара і*
*з архіва Ф. Шкірманкова.*

**Ва ўвесь голас**

Я - сын твой, Радзіма, а ты - мая Маці.
Мяне не разлучаць ніколі з табой.
Хачу за спрадвечнае слова трымацца,
Пакуль не сыду ў незваротны спакой.
А сёння, калі недавумкі спрабуюць
Зняважыць твой Гонар, цябе абылгаць,
Я тым, хто табой бессаромна гандлюе,
Хачу ва ўвесь голас рашуча сказаць:
- Прэч брудныя рукі ад Маці-Радзімы!
Вы, д'яблавы служкі! Куды вас нясе,
Ніколі вам, як бы ўпарта не пнуліся,
Радзіму маю не адняць у мяне!

***Фелікс Шкірманкоў,***
*25 траўня 2009 года.*

# Памёр гісторык і геральдыст Анатоль Цітоў




Памёр славуты гісторык і геральдыст Анатоль Цітоў. Пра гэта Свабодзе паведамілі ягоныя сябры. Яму было 73 гады.

У апошні час шмат хварэў, але да апошняга працаваў над новымі кнігамі.

Анатоль Цітоў - аўтар шматлікіх кніг, навуковых прац па геральдыцы, генеалогіі, гісторыі рамёстваў, гістарычнай геаграфіі, у тым ліку "Гербы беларускіх гарадоў" (1983), "Гарадская геральдыка Беларусі" (1989), "Наш сімвал - Пагоня" (1993), "Геральдыка Беларусі" (2010), "Гербоўнік беларускіх гарадоў" (2015) ды інш.

На пачатку 1990-х Анатоль Цітоў уваходзіў у камісію Вярхоўнага Савету, якая распрацавала эталоны выкарыстання бел-чырвона-белага сцяга.

Пахавалі навукоўца на Чыжоўскіх могілках.

***Радыё Свабода.***

# Выстава да 160-годдзя Яўхіма Карскага прадстаўляе спадчыну даследчыка



У Нацыянальнай бібліятэцы дзейнічае кніжная выстава, прысвечаная 160-годдзю Яўхіма Фёдаравіча Карскага (1861 - 1931). На ёй прадстаўлены кнігі і часопісы, з якіх можна больш даведацца пра жыццё і навуковую дзейнасць вучонага.

Выдатны філолаг-славіст, заснавальнік беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, палеолаг, бібліёграф, фальклярыст, акадэмік Расійскай імператарскай Акадэміі навук Яўхім Карскі нарадзіўся 1 студзеня 1861 года ў вёсцы Лаша Гарадзенскага павета.

У сферу навуковых інтарэсаў Яўхіма Карскага ўваходзілі разнастайныя, але ўзаемазвязаныя галіны даследванняў: гісторыя мовы, палеаграфія, дыялекталогія, лінгвагеаграфія, літаратуразнаўства і фальклярыстыка.

Навуковая спадчына Яўхіма Карскага надзвычай багатая. Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы (войны, рэвалюцыі, беспадстаўныя шальмаванні) Я. Карскі, даследуючы розныя бакі народазнаўства, здолеў апублікаваць (пераважна ў расійскім і беларускім друку) больш за 1000 малых і вялікіх навуковых прац. Вянцом яго навуковай дзейнасці з'явілася фундаментальная праца "Беларусы", якую склалі тры напоўненыя найбагацейшым матэрыялам тамы.

Гэта праца каменя на камені не пакідала ад патуг розных ілжэвучоных таго часу узяць пад сумнеў само існаванне беларускай нацыі. Карскі з неабвержнай навуковай абгрунтаванасцю паказаў перад шырокім светам самабытнасць, выразную нацыянальную адметнасць беларускага народа раскрыў бяздоннае багацце яго культуры, усе характэрныя асаблівасці і прыроднае хараство яго мовы. Ён адкрыў вочы беларусам на самім сябе як адзін з вялікіх еўрапейскіх народаў. Сваёй капітальнай працай "Беларусы", над якой ён працаваў 35 гадоў, Яўхім Карскі даў трывалы грунт, непахісны падмурак беларускаму нацыянальнаму Адраджэнню.

Рыхтуючы да выдання ў "Беларускім кнігазборы" ў 2001 годзе частак фундаментальнай працы вучонага, Кастусь Цвірка назваў нашага першага акадэміка Калумбам Беларусі і заклікаў да ўшанавання яго памяці.

*"Кнігазбор Я. Ф. Карскага ўяўляе сабой былую прыватную бібліятэку вучонага, якая дагэтуль не страціла свайго навуковага значэння для гісторыі славістыкі і беларусазнаўства. Яна знаходзіцца сёння ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі.*

*У 1921 годзе пасля адкрыцця першай вышэйшай навучальнай установы ў Савецкай Беларусі - БДУ - Яўхім Карскі, як адзін з ініцыятараў яго стварэння перадаў у дар нованароджанаму дзецішчу сваю багатую філалагічную бібліятэку, якую з вялікімі цяжкасцямі вывез з Варшавы ў 1919 годзе. Навуковец развітаўся з кніжным фондам, які ён збіраў цягам многіх гадоў свайго жыцця з аўтарскімі асобнікамі, якія падаравалі яму замежныя і рускія вучоныя,"* - напісалі ў 2011 годзе Л. Сільнова і Кс. Суша ў часопісе "Бібліятэчны свет" № 1.

***Падрыхтавала Эла Дзвінская.***

*З літаратурнай спадчыны*

# "Рэшты з рэшата" Юркі Голуба



*Пры жыцці паэт Юрка Голуб (1947-2020) напісаў шмат літаратурных твораў розных жанраў, якія не паспеў выдаць асобнымі кнігамі. Была падрыхтавана да друку і кніжка сатыры і гумару "Рэшта з рэшата".*

*Хочацца спадзявацца, што кніжка гэтая абавязкова пабачыць свет, бо ў ёй паэтычныя радкі Юркі Голуба дадуць чытачу прастору для роздуму пра час і яго супярэчнасці. Гумарыстычныя вершы ў неапублікаванай кнізе падаюцца з досціпам і жартам, выклічуць у чытача ўсмешку над праявамі нашых сённяшніх дзён.*

*Нагадаю, што Юрка Голуб нарадзіўся ў вясковай сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Зэльвенскай сярэдняй школы паступіў на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Падчас вучобы прымаў удзел ва ўніверсітэцкім літаратурным аб'яднанні "Узлёт", якім кіраваў прафесар Алег Лойка.*

*У 1970 годзе ён прыехаў у Гародню. Пачаў працаваць рэдактарам у рэдакцыі літаратурна-музычных перадач на Гарадзенскай абласной студыі тэлебачання.*

*У 1978 годзе перайшоў працаваць у газету "Гродзенская праўда", дзе загадваў аддзелам культуры. Потым зноў вярнуўся на Гарадзенскую студыю тэлебачання, вёў штомесячную перадачу "Гарадзеншчына літаратурная", у якой знаёміў з творчасцю пісьменнікаў-землякоў.*

*З 1996 года працуе літкансультантам у "Гродзенскай праўдзе", рыхтуе штомесячныя літаратурныя старонкі. Дзякуючы яму і былому рэдактару газеты Іосіфу Багіна, з друку выйшлі чатыры штогадовыя альманахі гарадзенскіх пісьменнікаў "Галасы" (2002-2005).*

*Шлях у літаратуру пачаўся ў 1963 годзе, калі ў Ваўкавыскай раённай газеце быў надрукаваны першы верш паэта. А потым з друку выходзяць яго паэтычныя зборнікі "Гром на зялёнае голле" (1969), "Дрэва навальніцы" (1973), "Векапомнае поле" (1976), "Помню пра цябе" (1983), "Сын небасхілу" (1989), "Поруч з даждЖом" (2001), "Зажураны камень" (2002), "Брама зімы" (2004), "Багра" (2006) і іншыя. Па першых публікацыях і зборніках паэт адразу ж заявіў пра сябе ў літаратуры свежа і ярка. Літаратурная крытыка адзінадушна засведчыла тэхнічнае майстэрства паэта. Яго вынаходлівыя метафары адлюстроўвалі шчодрасць перажывання, энергію, рамантычны лад душы, здольнасць адчуваць паўнакроўнасць жыцця, яго магутны пульс. Гэтыя якасці паэт не растраціў і ў сваёй пазнейшай творчасці, аж да канца жыцця.*

*Прапаную чытачам "Нашага слова" гумарыстычныя чатырохрадкоўі ("рэшты") Юркі Голуба. Яны своеасаблівыя і арыгінальныя. А сам паэт быў вельмі таленавітым чалавекам. Шкада, што ён рана адышоў ад нас.*

***Сяргей ЧЫГРЫН.***

**Папярэджанне**

Калі і грошай куры не дзяўбуць,
Ты не думай, што такі багаты,
І ад раю заграбастаў ключ,
Быццам ён і ад уласнай хаты.

**Перад разводам**

Калі паштарка на парог
У суд прынесла позву,
Дык ён ёй скаргу прыбярог,
Маўляў, чаму так позна?

**Студэнт-завочнік**

На лекцыі агортваў сум,
Нахмурваў думна бровы,
Была галоўнейшая з дум:
Ці ацялілася карова?

**Шлюб па разліку**

Ён сам сабе пакутнік.
У ролі просты змест:
Жаніцьбаю прыкуты
Да самых спальных месц.

**Арганізм**

Амаль што цэглу грыз
І піў амаль што лакі.
"Нягеглы арганізм…" -
Прачула доктар плакаў.

**У вёсцы**

Усчаліся перамены,
І паехаў з хаты дах
На гарод з гуркам і кменам,
На агонь у правадах.

**Раскусіў**

У вадаёме бірж
На брокерскую манку
Не клюнуў толькі сліж
Ні ў вечары, ні ў ранку.

**Уцякач**

Хоць хаваўся дзе як мог:
Аліменты ўнюхалі.
З чатырох ён драпаў ног,
Быццам бубны бухалі!

**Філасофія**

Мне казаў адзін махляр:
"Каб не здохнуць голым,
Ёсць нібыта цыркуляр -
Ставіць з ног на галаў".

**Зарплата**

Месяц цэлы авадзень
Джаліў мужа дужа -
У зарплатны толькі дзень
Накарміла мужа.

**Змалку**

Кемным вырастаў малы:
Гадавала бабка.
Змалку лез ён за сталы,
Стаў на чарку слабкі.

**З "пільных"**

Жывучы ўсё ж, няйначай,
І будзе, пэўна з тых,
Што маюць нюх ганчачы
І слых на сямярых.

**Плюгавец**

З падшывак колішніх газет
Свае даносы выдраў.
З палонкі вынырнуў на свет
Сушэйшы, чымся выдра.

**Неабвержнае ў дарагавізну**

Не сорам ласаму кату
Дапасці да смятаны.
Няблага лішняга каўтнуць
У спосаб самы танны.

**Сітуацыя**

Рубель набраў такі галоп,
Што дзьме ў вушах страшэнна,
Аж вочы вылезлі на лоб
У жаху, як кішэні.

**Прыкмета**

Даўно ўжо з'едзены запас.
У марах - пляшка горкай.
І кола круціцца ўвесь час
З нястомнаю вавёркай.

**Банальная гісторыя**

Калі ўзяўся быў за гуж,
Тады, законна ў ЗАГСе,
Цягні, здавалася б, як муж,
А ён Фемідзе здаўся.

**Скорагаворка**

Пры заменах зноўку змены:
Шалі звольніў зноў Бязмен.
І адразу ў Бязмена
План саспеў далейшых змен.

**Неверагоднае**

Застынь, як слуп, і не дыхні:
А бацюхны! З цырульні
Лісіца з Пеўнем - хоць бы хны! -
Пад ручку шпацыруе.

**Спосаб**

Дальбог жа, не хлушу,
Без спешкі ён пакрыху
Дастане з вас душу
І выскрабе на іржу.

**Чуткі**

На службе ў кабінеце
Меў ласку гаспадар
Зрабіць прэзэнт кабеце,
Як найдаўжэйшы дар.

**Дрозд**

Небарака даў дразда:
Стаў начальства перыць,
І з ягонага гнязда
Паляцела пер'е.

**Вынік**

- На табе! Прыйшоў капец! -
Аж жахнуўся шэры.
Быў па ўзломах першы спец -
Прышчамілі дзверы.

**Абразок**

Ён намеры дарадцаў крэсліў
І пры тым відавочна цвіў,
І сядзеў у службовым крэсле,
Як забіты па плешку цвік.

**Правіла**

Як набіць біткам кішэнь,
Скарыстайце метад:
Гнаць дарадцаў у каршэнь
На шляху да мэты.

**Просьба**

Не маглі б вы падтрымаць
Мой "Праект для людства"?
Могуць дыбам пасмы ўстаць:
Не праект - паскудства.

**Пакутнік**

Смак сямейнага жыцця
Не да смаку, мусіць.
Уявіць яго прцяг
Толькі жонка змусіць.

**На смех курам**

Хоць ходзіш з пыхай у абдымку,
Ад "славы" сам ільснішся ўвесь,
Зрабі, балесны, дзірку ў здымку
І ў курніку яго павесь.

**Запозненыя**

Ім салаўіны гурт абрыд,
Што ўсе гаі агучваў ладам,
Тады заенчалі наўзрыд,
Калі з гаёў зрабілі ляда.

**Разборка**

Ляталі шклянкі, нібы пёркі.
Тынкоўка мецілa абрус.
Была бандыцкая разборка?
Ды не - сямейны землятрус!

**Нос кан'юктуршчыка**

Цікаўнасць не ідзе на знос.
Варушыць чуйным носам,
Таму і адпаведна нос
Павевы часу носіць.

**Шыльда**

Ты як яго не драй,
Не стане опус пекным,
Хаця й па назве "Рай",
На самай справе - пекла.

**Празаік-скаржнік**

Ён галавы на злом
Над скаргамі ішачыў,
У прозе касталом
Ды і ў жыцці няйначай.

**Эпапея**

Падаўжэў раманны стос
"Дзе стракочуць конікі".
І да класікі б дарос -
Не пускаюць штонікі.

**Крытык**

Раскалупаў у творы глей:
Спажыва дробная на плыткім.
Ды толькі сунуўся глыбей -
Адразу задрыжалі лыткі.

**Пісака**

Сумленне згорнута ў дзве столкі.
Паскубваць ласы каравай.
І да таго ён здольны толькі
Брахаць здалёк на караван.

**Бываліца**

Часопіс "Выспятак" знянацку
Ціск атрутных плётак вызнаў.
Каб плёткі раздзяліць па-брацку,
Здалі рэдактару на візу.

**Альманах**

Салідны знешне альманах:
На ім - не вокладка, а вечка.
І хоць рэдактар там - манах,
А Бога не знайсці са свечкай.

**Пачатковец**

Шырокі жэст і зык.
Сваё не ўпусціць з возу.
Па службе адстаўнік,
Даіць прыстаўлен прозу.

**Дама з рыфмамі**

Яе цягнулі, хто як мог,
У нерат творчай секцыі,
Што нават застыдаўся Бог
З аказіяй інспекцыі.

**Імпэт**

Шпурляў, расхрыстана, імпэт
На травы і на месік.
Для жонкі быў нібы паэт,
У муз - сябе намеснік.

**Парада**

Даўно прыгонным куража
Было б не лішнім спахапіцца:
Дарма - напоўніцу іржаць
І дурня клеіць на дурніцу.

**Нязгодны**

Граміла з вежу ростам
У кішэні шыш скруціў.
Завецца тое проста -
Пасіўны супраціў.

**У крэсле**

Склаў сабе адмысловы спісак
"Утрымацца як на кані":
Ад чужых адварочвай пысак,
Сваякоў, чым далей, гані!

**З досведу**

Жанчыны ўсе - адно ў адно:
У іх наўме заўжды тусоўка.
Калі ж піхаць цябе на дно -
Яны піхаюць паасобку.

**Акуратыст**

Сабе самому загадаў -
Даносіў пад капірку.
У кнігу шчыра заглядаў,
Як у дзвярную дзірку.

**"Змагары"**

Змагаліся за мір,
А ў выніку - за грошы.
Сцягі працёртыя да дзір
Аб іхнія галёшы.

**Трыбун**

А словы ён - мастак лушчыць
Трыбунна-пенна-палымяна.
Хаця і лысіна блішчыць,
Але пад ёй рыштунак цьмяны.

**Спявак**

Быў салістам - хоць куды:
Хутка ў спевах вырас.
Ды насталі халады -
Гай зьмяніў на клірас.

**Не хацела**

Не хацела гаварыць,
Выдаваць сакрэты.
Ой, душа агнём гарыць,
Пад пярынай грэта.





# Цуд на Каляды

*Цуд на Каляды ўсё ж такі адбыўся! Рыхтуючы перавыданне кнігі "Дудары Глыбоцкага краю" корпаўся ў старых газетах і натрапіў на неймаверна цудоўную легенду, якая на адной кароткай старонцы тэксту змяхоўна, лірычна і прыгожа апавядае як нараджэнне Божага Дзіцяткі злілося з нараджэннем беларускага народа. Тэкст быў надрукаваны ў калядным нумары віленскай газеты "Родны край", 5 студзеня 1934 года.*



РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы у месяц.

№ 1 (54) Вільня, 5-га студзеня 1934 г. Год 3-ці.

З НОВЫМ ГОДАМ!

*Газета "Родны край" выходзіла ад 1 студзеня 1933 да 29 лістапада 1936 - была заходнебеларускай газетай, органам Таварыства беларускай асветы. Мела асветніцкі кірунак, адстойвала правы беларусаў у Польшчы. Друкавала гістарычныя матэр'ялы. Выдадзены 104 нумары, пасля чаго выданне было забаронена польскай пракуратурай. Тэкст легенды падпісаны ініцыяламі М.Ш. - псеўданім Міхася Шчаснага, аднаго з рэдактараў газеты, выхавацеля ў Віленскай беларускай гімназіі, пазней настаўніка школы ў Тургелях, на пачатку вайны сасланага немцамі на прымусовую работу ў Нямеччыну. Далейшы лёс аўтара мне пакуль невядомы. Так прыгожа пра беларускую дуду ў прозе пісаў толькі ў сваім апавяданні-пераказе "Дудар" Вацлаў Ластоўскі. Хай гэты цудоўны тэкст вернецца да нас у форме вось такога сімвалічнага каляднага цуду-віншавання.*

***Віталь Воранаў.***

## Беларуская легенда

Калі на небе заяснела магутным і асляпляючым блескам Віфліемская зорка, якая сваім з'яўленнем кранула не адзін народ, яе святло даляцела і да бедных сяліб - Крывіча, Дрыгвіча, і Радзіміча. Першы з іх нішчыў лясы пад ворную зямлю на абшарах будучага Полацкага княства; другі паляваў з якойсьці першабытнай дзідай на розную звярыну, якую давала паўсоннае Палессе; а трэці цягаўся па разлеглых смаленскіх раўнінах. Калі заяснела яркая і прыгожая зорка, штось кранула іх струны паганскай душы. Зацікавіла іх гэта нязвычайнае з'явішча. Мала здольныя да далёкіх падарожжаў, як і іх патомкі, аднак пастанавілі выправіцца ў свет, каб чаго даведацца ад людзей. А на ўсякі выпадак, каб і сябе не асмяяць і сваім хатам не зрабіць падрыву, узялі з сабой такія-сякія падаркі. Крывіч запхнуў за пазуху некалькі локцяў найцнейшага палатна і рознакаляровы пояс; Дрыгвіч - напоўніў жбанок залацістым мёдам, якога хапала ў лясных борцях; пад паху скруціў скуру з барчыстага мядзведзя, а за пояс заткнуў новыя лапці. А Радзіміч узяў вышываны ручнік, некалькі жменяў сушаных яблыкаў і грушак, а таксама дуду.



Глухімі лясамі, ледзь прыкметнымі сцежкамі дабрылі яны да шырокага гасцінца і вельмі здзівіліся , убачыўшы сябе; бо кожны з іх думаў, што толькі ён адзін ёсць на свеце. Вось тут яны пазнаёміліся і ў далейшую дарогу пайшлі разам.

Доўга яны ішлі, доўга, аж нарэшце прыйшлі да нязнанага места Віфліема, а на яго прадмесці ўбачылі шопу, з каторай толькі што выйшлі багатыя каралі.

Вельмі дарагія скарбы ляжалі каля жолаба, у каторым знаходзілася на пляцёнцы з саломы вельмі прыгожае Дзіцятка, не звяртаючае някай увагі на дарагія падаркі каралёў.

Нясмелыя нашыя падарожнікі падыйшлі да жолаба, нізка пакланіліся і з паспехам пачалі раскладаць свае сціплыя гасцінцы, але раптам зрабілася ім сорамна, калі ўбачылі дарагія падаркі каралёў. Аднак жа зрабілася дзіва: бо вось, Божае Дзіцятка працягнула ручку да каляровага пояса, а другую да дуды і радасна пачало смяяцца. Заўважыла гэта і Маці, прыгожасці якой дзівіліся падарожныя, і выцягваючы да іх рукі сказала:

- Мае вы беларускія госці (дзеля таго, што прыбылыя былі ў белым адзенні і мелі ясныя валасы), шчыра вам дзякую за гасцінец, які паходзіць ад шчырага сэрца і ад мазольнай рукі. Кажу вам, што не загінуць на вашай зямлі - ані лён залацісты, ані шоўкавая воўна, ані бурштыновы мядок. Ваша душа будзе чыстай, як белае палацанца, жыццё так прыгожым, як гэты пояс, а салодкім, як гэты мядок і вясёлым, як гэта дуда.

Адыйшлі з радасцяй тры падарожнікі, бяручы з сабой на памятку па жменьцы сена, на каторым ляжала Дзіцятка.

# Нас творчы дух яднае і бадзёрыць

Вітаю чытачоў і шаноўных "экватарцаў"! Вось незаўважна завяршае сваю хаду 2020-ты год, які выдаўся для нашага народа вельмі выпрабавальным і складаным па ўсіх напрамках быцця. Для літаратурнага клуба "Экватар" ужо тое значна, што мы знайшлі сілы і розум працягваць творчую працу, трымаць сваё сэрца гарачым, а розум халодным. Таму і ўчынкі нашыя добра бачны на старонках альманаха, які мы складаем, па традыцыі, напрыканцы кожнага года. Вельмі прыемна вітаць нашых даўніх сяброў з новымі бадзёрымі творамі, а таксама і тых, хто нядаўна друкуецца. Але я б не стаў кранацца мастацкіх вышынь нашых аўтараў: нам усім бліжэй духоўная еднасць на карысць Бацькаўшчыны, якая перажывае складаны час. Сёння, як ніколі, ад аўтара патрабуецца максімальная ўвага і адданасць Слову, Радзіме, вышэйшаму прызванню захаваць духоўную чысціню, якая ва ўсе стагоддзі яднала беларускі народ. Таму і аўтары павінны імкнуцца быць на баку дабра, спагады, чалавечнасці. І гэты дух ёсць і будзе ў творах "экватарцаў", бо іншага шляху няма, калі ты імкнешся спасцігнуць законы мастацтва. Мастацтва ж будуецца менавіта на сплаве сілы духу чалавека, яго імкнення ды прыгожага і праве раскрываць свой уласны творчы свет.

Аглядаючы новы нумар альманаха, прыемна зазначыць, што на старонках выдання надрукаваны творы нашых старэйшых сяброў клуба: празаікаў Якава Анапрэенкі, Людмілы Сівалобавай, Дзмітрыя Марозава, Жаны Хромавай, паэтаў Вячаслава Данілава і Валянціна Шведава. Пра кожнага з іх я многа магу гаварыць, разважаць і мовіць пра іх творчасць, але адно несумненна - гэта людзі, якія сталі магутнай часткай нашага клуба, яго жывой гісторыяй, і мая ўдзячнасць ім абсалютная.

Творы ў нашым выданні, па традыцыі, надрукаваны як на беларускай, так і на рускай мовах. Зазначу, што ў альманаху змешчаны творы добра вядомых ў беларускім літаратурным асяроддзі аўтараў: Тацціяны Барысюк, Міхася Башуры, Інгі Вінарскай, Алеся Емяльянава-Шыловіча, Мікалая Іваноўскага, Івана Лосікава і іншых.

Па склаўшайся ўжо сумнай традыцыі, мы друкуем творы "экватарцаў", чый шлях зямны ўжо спыніўся. Гэта Валеры Скакун і Уладзімір Марозаў. Кожны з іх шмат працаваў у літаратуры і пакінуў добрую спадчыну і светлыя ўспаміны. У жыццях гэтых аўтараў літаратурны клуб "Экватар" займаў асабліваe месца і дакладна не быў чужым.





У гэтым годзе альманах сіламі нашай рэдакцыі і, у прыватнасці, шэф-рэдактара Інгі Вінарскай крыху змяніў свой інфармацыйны фармат. Акрамя твораў нашых аўтараў мы змясцілі інфармацыйныя блокі аб творчай дзейнасці літаратурнага клуба па часавай прыналежнасці да пэўных мерапрыемстваў. Так да кожнага інфармацыйнага блока з фотаздымкамі дадаліся артыкулы, рэцэнзіі, прадмовы. Хачу падзякаваць Інзе за шчырыя намаганні па падтрымцы клуба, за пастаянны пошук новых форм працы, уменне арганізаваць творчы, выступоўчы і выдавецкі працэс з высокай якасцю работы па ўсіх гэтых напрамках. Дзякуючы ёй, наш клуб развіваецца ў бок больш высокага прафесійнага ўзроўню.

У альманаху размешчана пяць інфармацыйных блокаў, дзе паказана амаль уся асноўная праца клуба, пачынаючы з выхаду юбілейнага нумара альманаха і заканчваючы літаратурнымі падзеямі гэтай восені. За 2020 год мы разам перажылі шмат яркіх і незабыўных хвілін радасці і падзей. Выйшлі новыя кнігі ў некалькіх нашых аўтараў. Нягледзячы на абмежаванасць магчымасцяў пры правядзенні мерапрыемстваў, прайшлі прэзентацыі, канцэрты ў вайсковых частках, нават у дзіцячых установах, прэзентацыі ў сталічных музеях і бібліятэках. Адным з яркіх момантаў прайшоўшага года, несумненна, было святкаванне 10-годдзя літаратурнага клуба "Экватар" у студзені гэтага года. Прыемна, што юбілей клуба прайшоў, па волі лёсу, у дзяржаўным музеі Максіма Багдановіча, і мы шчыра выказваем удзячнасць за падтрымку ў арганізацыі імпрэзы кіраўніку гэтай установы Міхалу Бараноўскаму. Юбілейнае мерапрыемства прайшло павольна і па-мастацку артыстычна.

Хочацца падзякаваць усім сябрам і калегам, хто шчыра і па-адкрытаму душэўна падтрымаў у 2020 годзе наш клуб, дапамагаў праводзіць імпрэзы, сам выступаў у іх, правадзіў іх і нёс слухачам і гледачам добрае, шчырае мастацкае і спеўнае слова. Асабліва дзякуй за падтрымку літаратурнага клуба "Экватар" хочацца сказаць загадчыцы бібліятэкі № 1 імя Л.М. Талстога Лоле Іназемцавай.

Як і раней, з добрым гумарам і веданнем армейскага быту парадавала сваім творам празаік Вікторыя Бялькевіч. Цікавую гісторыю распавяла нам пра герояў былой вайны ўдумлівы празаік Тарэза Кавальчук. Густа і блізка да жыцця малюе людскія лёсы Алена Крываносава. Асобнае слова падзякі выкажу нашаму пісьменніку і спеваку Дзмітрыю Максімавічу Марозаву: будзьце, сябры, гэтакімі ж энергічнымі, як наш Максімавіч! Кожнае ягонае выступленне на мерапрыемствах "Экватара" заслугоўвае добрых апладысментаў, павагі, ягоная думка поўная жыццёвай мудрасці, яна адчуваецца ў радках і словах, а тонкі гумар заўседы мае ўласцівасць бадзёрыць дух.

Асаблівую прывабнасць жаночай натуры чытачы могуць адчуць праз вершы Евы Сайнцэр, гераіня якой мае за плячамі вялікі досвед чалавечых радасцяў і турбот. Добры настрой і пазітыў дораць чытачам вершы Ірыны Трунінай, а творы Тацціяны Юрэвіч напоўнены любоўю да Бога, незвычайнай дабрынёй і пяшчотай. Трапным філасофскім і лірычным зместам прасякнуты вершы Ігара Шыршова, чалавека з асаблівым і глыбокім позіркам на жыццё. Дзякуючы нашым аўтарам, альманах выдаўся трывалым, насычаным, сучасным.

Так незаўважна прабягае 2020 год, які стаў вялікім выпрабаваннем для нашай краіны, таму я з вялікай удзячнасцю вымаўляю словы падзякі ўсім, хто ў гэтыя дні працаваў і выступаў з намі, нягледзячы на сучасныя складанасці, ствараў цудоўныя радкі, знаходзіў час думаць, меркаваць, параўноўваць, слухаць асяроддзе і хвалі Сусвету. Мы ўсе з'яўляемся яго дзецьмі, а ён дорыць нам свабоду быць творцамі. Але спачатку мы вучымся быць дзецьмі нашай Беларусі, таму нам трэба імкнуцца разам захаваць і развіць духоўны вопыт нашага народа, каб наталіць свой дух сапраўднымі каштоўнасцямі, без якіх творы, як дрэвы без каранёў. Таму - наперад, "экватарцы", да новых творчых вышынь, да новых творчых дасягненняў!

*Кіраўнік літаратурнага клуба "Экватар", паэт, празаік, журналіст*
***Вячаслаў Корбут.***

*Гісторыя Магілёўшчыны*

# Балонаўка. Старажытная вёска ў Быхаўскім раёне
## *Частка 3*

**Працяг гісторыі невялічкай вёскі Балонаўкі на шляху Магілёў - Бабруйск недалёка ад Чачэвічаў**

Яшчэ адным вялікім родам, пра які мы ўжо згадвалі, былі Маркоўскія: Мікола, Іванаў сын з сяла Глухі, як распавядалі, спачатку прыйшоў парабкам да Стрыжэўскіх, а пасля застаўся ў іх прымаком, узяўшы дачку Тодара Стрыжака. У Мікалая былі 2 дачкі і 3 сыны: Савелля, Стахван і Ян. У двух старэйшых было таксама па тры сыны, а Яна, як і амаль што ягонага гадка Амброжа Стрыжака, аддалі ў салдаты.

Савеллевы сыны: Ляксандра, Піліп і Тодар. Ляксандра пражыў даўгое жыццё, каля 80-85 гадоў. Год нараджэння невядомы, год смерці - 1936. Пры гэтым запісана, што нябожчык меў 95 гадоў. І гэта вельмі характэрна для тых часоў, калі пенсіі не налічваліся, і таму дакладны век старых не быў вядомы, але ён ніколі не занікаўся, а дакладна завышаўся ("Мой бацька быў дужа стары, памёр у 100 гадоў!") па прыблізна гэткай, вылічанай аўтарам схеме: калі ў метрычных ці актавых кнігах запісана, што чалавек памёр ва ўзросце ад 60 да 70 год, можна смела аднімаць 5 гадоў, ад 70 да 80 - 10 гадоў, ад 80 да 90 - 15 гадоў… Каранямі гэта сягае яшчэ ў часы паншчыны, якую мусілі служыць мужчыны ў веку ад 15 да 60, а жанчыны - ад 15 да 55. Таму ў кожным інвентары, у кожным перапісе ці люстрацыі людзі імкнуліся хоць троху ды застарыцца, каб не адрабляць на пана. Тое ж, уласна, адбывалася і ў савецкія часы: пасля вайны, калі большасць дакументаў пагарэла, узрост калгаснікаў запісвалі збольшага з іхніх уласных словаў і на аснове вонкавага агляду, у выніку чаго людзі самі сябе падстарвалі гадоў на 5-10. Выхаду на пенсію ў калгасах не было, але пасля 60 гадоў пераставалі выганяць на гужавыя работы (гэта тое, што пры прыгоне называлася згонамі). Напрыклад, мая прабаба Наста, нарадзіўшыся ў 1903 г., пасля вайны запісалася 1897-ым годам.

У Ляксандры былі 2 сыны: Ягор застаўся ў бацькавай хаце, а Марка аддзяліўся, пражыўшы таксама вельмі доўгае жыццё - 101 год. Ледзь не да апошніх дзён, хоць і цалкам аглушэлы, Марка быў пры памяці. Я яшчэ памятаю, як ён любіў паўтараць сваю ўлюбёную, напэўна, прывезеную з японскай ці імперыялістычнай вайны лаянку: "Ядроны халат!" Марка быў даволі граматны, да прыкладу, ён выступаў у якасці паверанага Кароўчына-Слабодскага таварыства землеўласнікаў, калі сяляне вёсак Балонаўка, Кароткія і Кароўчыня (раней - Кароўчына Слабада) у 1911 годзе вырашылі атрымаць з дзяржаўнага Сялянскага пазямельнага банка пазыку, каб купіць ва ўрочышчы Кавяшы на заходнім беразе Друці ладны кавалак зямлі ў памешчыка Цялесніна, уладальніка маёнтка Закупленне.

Ляксандравы дочкі ўдала выйшлі замуж: Агапа - за караўчаніна Тодара Ярашкевіча, у якога было 6 надзелаў зямлі плюс 8,5 дзес. купленай (у 1930 г. яго раскулачылі, а пазней пасадзілі як шкодніка), Саша - за чыноўніка Быхаўскай павятовай вайсковай камісіі Івана Кільчыцкага.

Другі Савеллеў сын - Піліп - узяў у жонкі прыгажуню Соню, чыя маці была ўдавою афіцэра з Мсціслаўскага павета, а пасля пайшла замуж за папа ў суседнім сяле - Балонавым Сяльцы. Піліп рана памёр, пражыўшы з жонкай усяго 9 гадоў і пакінуўшы дачку Анюту і сына Ціму. Соня пасля ўзяла сабе прымака Якава Караткевіча з Кароткіх, ад якога нарадзіла Антолю і Сяргея. Якаў быў страшны весялун, але пры гэтым клапаціўся пра адукацыю сваіх дзяцей і пасынкаў. Ціма быў калекам (у яго была скручаная правая нага), Якаў аддаў яго вучыцца ў Гарадзецкае 2-класнае вучылішча, вазіў яго на калёсах ці заўжды сачыў за тым, каб пасынку нічога не бракавала. Ціма затым працаваў валасным пісарам у Гарадзішчы, сакратаром Глухскай валаснай земскай управы, пасля рэвалюцыі - справаводам Гарадзішчанскага валвыканкама. Як і бацька, рана памёр. Сяргей жа быў спачатку жаніўся з папоўскай дачкой Насцяй, якую прывёз з салда-таў, але затым, уступіўшы ў партыю і рушыўшы па партыйнай кар'ернай лесвіцы, кінуў яе і ўзяў ідэалагічна правільную жонку.

У трэцяга Савеллева сына Тодара былі 2 сыны. Старэйшы Нікіпар, як казалі, быў дужа гуляшчы, і, калі ў 29 год яго насмерць завалiла дрэвам, людзі казалі, што гэта яго Бог пакараў. Але што цікава: адзіны стары драўляны крыж з надпісам, што дасюль захаваўся на балонаўскіх могілках, стаіць, прыхінуты да хвоі, менавіта над Нікіпаравай магілай: *"Здесь погребенъ Никифоръ Феодоровъ Марковскій. 1909 г. Авг. 11 д."*. Такім чынам, малодшаму Мацвею засталася ўся бацькоўская спадчына - каля 50 дзесяцін зямлі. Каб даць рады вялізнай гаспадарцы, яны наймалі на сезон да 5 парабкаў. Раскулачвання яму нейкім цудам - праз перадачу большай часткі ўласнай зямлі ў калгас - пашчасціла пазбегнуць, але з калгаса ў 1933 годзе ён быў выключаны і жыў аднаасобнікам. Памёр у вайну ад "ціху" (тыфу).



*Крыж 1909 г. над магілай Нікіпара Маркоўскага*

Пра другога Мікалаевага сына Стахвана вядома мала, але багата хто згадваў Стахваніху, хоць нават імені ейнага гісторыя да нас не данесла: многія беззямельныя сяляне з Чачэвіч хадзілі пры панах і пазней у Балонаўку парабчыць, і Стахваніха лічылася самай добрай і лагоднай: акрамя грошай, заўжды ў канцы працоўнага тыдня накладала вялізную ношку ежы. У Стахвана таксама былі 3 сыны (гэта ледзь не генетычная традыцыя нейкая была ў Маркоўскіх): Захар'я, Апанас і Ладымір. Старэйшы Захар'я лагічна аддзяліўся першым, узяўшы ў жонкі Сашу-шляхцянку з Кароткіх, выбіраўся старастам Балонаўкі і Кароткіх (вёскі былі пэўны час аб'яднаныя ў адну грамаду ("вобчаства")), меўшы надзельнай 10 дзесяцін зямлі, купіў яшчэ 60 у Кавяшах. Дачок ён вельмі ўдала аддаў замуж. Пра старэйшага сына Хведзьку ўжо пісалася раней: ён з-за даносу завідлівых землякоў быў арыштаваны ў 1938 годзе і праз некалькі месяцаў расстраляны ў Магілёве як польскі шпіён. У малодшага Захар'ева сына Паўла была мянушка Ціван, бо злыя языкі казалі, што Захар'іха нагуляла яго з панскім цівуном.

Ладымір - малодшы Стахванаў сын - застаўся жыць у бацькавай хаце, вывучыўся грамаце (прыгадваюць, як у старасці, ужо пры Саветах, ён на кожную несправядлівасць з боку ўладаў гразіў некаму ўяўлянаму кулаком і прыгаворваў: "От, шкарадзі! Я чару прашэнне напішу!" Жонку ўзяў сабе са знакамітай быхаўскай сям'і Бусловых. Патомствам Ладымір выдзеліўся сярод братоў: у яго быў толькі адзін сын Пятрок і ажно 5 дачок: Вольга, Прося, Анюта, Кацярына і Варка.

А ў сярэднага Стахванава сына Апанаса, які жаніўся з Марыляй Чарняўскай, таксама караўчанцы, было, паводле завядзёнкі, 3 сыны: Іван, Ляксандра і Рыгор (мой прадзед). У вёсцы сям'ю гэтую клікалі Місцюкамі праз адзін смешны выпадак. Неяк Апанас паставіў пастку на тхара, але Максім Гейсцер, Аніськаў сын, таго тхара дастаў і пахваліўся некаму. Апанас прыйшоў да Максіма і кажа: "Аддавай майго тхара!" А той - нахабна ў адказ: "А які твой тхор?" Апанас аслупянеў ад такога пытання і толькі і змог, што адказаць: "Місцюк ты! Мой тхор вараны, белапысы! Цьху!" Ад гэтага дзіўнага старасвецкага слова і пайшла мянушка. І толькі нашмат пазней пасля таго, як я пачуў гэтую гісторыю, я даведаўся, што "місцюк" - гэта шкоднік, круцель, шэльма. Усе Апанасавы сыны прайшлі праз акопы імперыялістычнай вайны. Іван быў першым старшынём балонаўскага калгаса імя Сталіна. Рыгор у вайну быў паранены карцеччу ў Галіцыі ў 1916 годзе. Распавядаў такую гісторыю, якая адлюстроўвае стан агароднацтва ў Беларусі напярэдадні рэвалюцыі. Мабілізаваных пагрузілі ў Быхаве ў "стальпіны" і павезлі ўсіх разам на "аўстрэйскі хронт". Недзе ўжо ва Украіне выскачылі яны былі з вагона і ўбачылі жанчын, што на пероне прадавалі вёдрамі сімпатычныя чырвоненькія яблычкі. Так ім захацелася тых яблычкаў, што яны скінуліся разам і купілі ў прадавачак два вядры. Цягнік рушыў далей, салдаты абступілі вёдры і давай частавацца. Адзін укусіў, другі, трэці… Чырвоныя яблычкі аказаліся такімі паскуднымі, нясмачнымі, што маладыя быхаўцы адзінадушна вырашылі высыпаць абодва вядры вонкі. І толькі ў 30-ыя гады Рыгор даведаўся, што тыя "яблычкі" насамрэч былі памідорамі. Адляжаўшы пасля ранення ў вайсковым шпіталі ў Дзвінску (цяперашні Даўгаўпілс), Рыгор вярнуўся ў Балонаўку, быў выбраны сакратаром Балонаўскага сельскага камітэта, на пачатку 1920-ых быў накіраваны на вучобу ў Петраградскім універсітэце, але не вытрываў нястачаў і напаўгаладнага жыцця і вярнуўся дахаты (ягоная жонка - мая прабаба - любіла яго падкалоць: "Мамкін сынок!"), у 1923 годзе аддзяліўся ад бацькі, пабудаваў сабе хату на ўскрайку вёскі (яна і дасюль стаіць непадалёк ад берага рэчкі), пайшоў сватацца да Настасі Палавіковай, дачкі беднага Петрака, але нечакана атрымаў гарбуза, бо Настася ўжо была сасватаная за іншага. Прыйшоў дахаты і лёг. Ляжаў тыдзень, уперыўшыся ў столь, не еў, ні з кім не размаўляў. Сяброўкі Настасі даведаліся пра гэта, распавялі ёй… У рэшце рэшт, першаму жаніху аднеслі гарэлку, сала, прысмакі: адкупіліся, і Рыгор з Настасяй згулялі вяселле на Каляды 1926 года. Рыгорава маці Марыля, напаўшляхцянка, бывала, бурчэла, што, маўляў, узяў сабе галапузую Петракову дачку, без пасагу, на што зазвычай спакойны Апанас рэагаваў развважлівым, але дасціпным пытаннем: "А ты што прынесла за сабой? Гусь?" Пра Апанаса распавядалі, што ён у маладосці кахаў нейкую Гапку, але бацькі жанілі яго з Марыляй, бо яна лічылася шляхцянкай, няхай сабе і з не дужа багатай сям'і. Гапку ж аддалі замуж некуды далёка. І вось аднойчы Апанаса, ужо ў сталым веку, запрасілі на нейкую "бяседу" (застолле) - і выпадкова пасадзілі поруч з той самай Гапкай. Да самага скону ён тое прыгадваў: "Самае луччае, што ў мяне было, - гэта як я са сваёй любою разам чай піў". Сканаў Апанас, уваліўшыся ў ваду позна ўвосень: моцна застудзіўся і памёр ад гарачкі.

Рыгор жа ў 1927 годзе стаў сакратаром Чачэвіцкага сельсавета і даваў добрай рады сваёй працы, аж пакуль у 1934 годзе не прыйшла пастанова ўраду пра тое, што калгаснікі беспадатказва маюць права трымаць толькі адну галаву буйнога рагатага былда, а ўсе дадатковыя цяляты-бычкі абкладаліся вялізным падаткам ці канфіскаваліся ў калгас. Рыгор, даведаўшыся пра тое, што едзе адпаведная ўліковая камісія, пайшоў па Балонаўцы і папярэдзіў кожнага "хадзяіна": "Рэжце! Рэжце!" Фактычна гэта быў расстрэльны артыкул. Ніхто з балонаўцаў яго не здаў. Але на ўсялякі выпадак ён звольніўся з пасады сакратара і, як распавядала бабуля, мо цэлы год уночы трывожна чакаў варанка. Стрэс і напружанасць у Рыгора былі такія жудасныя, што аднойчы, калі жонка Настася на досвітку пачала будзіць яго выходзіць па чарадзе пасціць каровы, ён усхапіўся і спрасонку знянацку паслаў яе на тры літары. Гэта быў першы і апошні раз, калі Рыгор ужыў мат у прысутнасці Настасі, але тая і гэтым - канешне, не без усмешкі - папракала яго да самага скону (яны абодва памерлі ў 1980 годзе з розніцай у два месяцы).

Трэці Стахванаў сын - Ян - рэкрутам ваяваў на Крымскай вайне, вярнуўшыся, атрымаў з казны 2 дзесяціны, узяў сабе бедную Агапу з Балонава-Сяльца, якая нарадзіла яму 7 дачок і аднаго сына Максіма, што рана памёр. У бацькавай малой хаціцы засталася малодшая Ліса, якая ўзяла прымака Грышку Чарняўскага з Кароўчыні і, нарадзіўшы адну дачку - Еньку (Яўгенію), заўчасна памерла. Грышка ўзяў сабе другую жонку са сваёй вёскі - Анюту Ярашкевічаву. У калгас не ўступаў, быў аднаасобнікам. Калі пачалася вайна, немцы загадалі выбраць у вёсцы старасту. Грышка як быў, так і застаўся "набрыддзю", чужым, таму балонаўцы выбралі яго, каб не падстаўляць сваіх. Каб яго не забілі партызаны, ён на ноч выязджаў на лодцы на цэнтр балонаўскага возера і там хаваўся сярод трыснягу і пуховак. А рэальна кіравалі вёскай так званыя "тумары", г. зн. верхаводы - браты Ляксандра і Павел Палавіковы, якія адказвалі за перамовы з акупацыйнымі ўладамі, нарыхтоўкі, арганізацыю хавання ў лесе ў часе карных аперацый.

*(Працяг будзе.)*

*Анатоль Прасаловіч, Магілёў.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:*
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by



http://nslowa.by/
http://pawet.net/ http://kamunikat.org/
http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/



Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 11.1.2021 г. у 17.00. Замова № 6.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1200 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 2,65 руб., 3 мес.- 7,95 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.